№ 3 Вільня, 20 чэрвеня 1920 г. Год I

# НЕЗАЛЕЖНАЯ ДУМКА

**Палітычна-грамадзянская і літэратурная часопісь**

**Выходзіць што тыдзень.**

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вострабрамская 9—5, адчынена штодзень ад 11 да 1 г. апрача сьвят.

Асобны нумэр 2 маркі, на 1 год 100 мк., на 6 месяцоў 50 мк., на 3 мес. 25 мк., на 1 м. 8 м.

## Літоўская палітыка.

Прэдстаўнікі польскага Сойму паслы: прафэсор. Каменецкі і М. Недзялкоўскі недаўна былі ў Коўні, дзе знаеміліся з сучаснай лістоўскай палітыкай.

Пасол М. Недзялкоўскі так апісвае ў „Работніку“ свой разгавор з Літоўскім міністрам паміжнародных спраў прафэсарам Вальдэмарасам, каторы аб сучаснай літоўскай палітыцэ паміж іншым сказаў:

„Літоўская палітыка ідзе зусім іншымі дарогамі, як палітыка польская. Вы хочаце збудаваць вялікі блёк народаў ад Фінляндзіі да Румыніі; мы уважаем гэты плян за безнадзейную авантуру. Вы хочаце праціўставіцца Расіі і Немцам, як сіла самаістнуючая; мы шукаем паразуменьня са ўсімі нашымі суседзямі. Вы будуеце незалежныя Украіну і Беларусь; мы думаем, што беларускае і украінскае пытаньня зьяўляюцца ўнутранымі пытаньнямі Расіі. У руху беларускім працуюць альбо укрытые палякі, альбо укрытые Расейцы. Праўдзівые беларусы — гэта Воронка, Семашка і цэлая іх група; яны даўно вырэкліся Менску, Вільню-ж і Горадню узналі за складовую часьць Літвы. Фэдэрацыйная праграма — гэта утопія. Літоўцы ня хочуць мець з ёю нічога супольнага. Літоўцы скарэй выракуцца Вільны, як выкажуць згоду на фэдэрацыю з Польшчай. Вільня павінна быць літоўскай. Так зване самаазначэньне збанкратавана хіба аканчацельна. Разлучаю інтарэсы і патрэбы гасударства Мы—літоўцы атрымаем Вільню, бо так будзе хацець Антанта, глаўным чынам Англія. У напіраньні Вялікай Брытаніі мы пэўны. Калі-б ўсе — такі і гэта не 3 былося,—будзем чакаць, калі Польшча, уціснутая паміж Расейцаў і Немцаў, не здолее ужо бараніць старой Літоўскай сталіцы. Тады прабье наш час“.

На конта гэтай заявы п. Вальдэмараса мы павінны сказаць, што ня ўсе тое, што сказоў п. Вальдэмарас, ёсьць такім. Многія яго словы трэба лічыць мала абапёртымі, напрыклад яго словы ў адносінах да беларусоў, што беларускае пытаньне зьяўляецца ўнутраным пытаньнем Расіі, што ў руху беларускім працуюць альбо укрытые палякі, альбо укрытые расейцы і гэтак далей.

На нашае зданьне, калі беларускае пытаньне ёсьць унутранас расейскае пытаньне, то і літоўскае нічым не розьніцца ад беларускага, што-ж датычыць характэрыстыкі беларускіх дзеячоў, як укрытых расейцоў, ці палякаў, то і ў Літоўцаў ёсьць, нам ведама, розныя арыентацыі: і палёнафільская і руссафільская і гэрманафільская і англафільская, але як ў Літоўцаў, так і ў нас Беларусаў — галоўная арыентацыя — на самых сябе, на свой народ. Народ, жывучы ў Віленшчыне і Горадзеншчыне, мы думаем, не будзе звольнен права выказацца аб сваім лёсе, як гэтаго ні хочацца п. Вальдэмарасу.

## ДОНКІХОЦТВА.

Як паведамляе газэта «Беларусь», ў Менску 5 чэрвеня залажылася „Беларускі рэспубліканскі саюз“, мэтай каторага, вырашанай ў рэзалюцыі, зьяўляецца:

„апіраючыся на адозвы Начальніка польскай дзяржавы М. Пілсудзкаго, цьвёрда верыць, што ён рэалізуе свой маніфэст да жыхароў б. Вялікаго княжства Літоўскаго і супольнае свабоднае

жыцьцё усіх народаў Вялікае Літвы створыць разьвязваючы факт ў адносінах да Усходу»·

Як ні прыкра гэта рабіць, але прыходзіцца ў канцы канцоў сказаць, што сярод нас беларусаў ёсьць людзі, каторым падабаецца займацца палітычным донкіхоцтвам, бо чым іншым можна назваць жаданьне „беларускага рэспубліканскага саюзу“ утварыць Вялікую Літву, ў склад каторай вайшлі-б літоўцы і беларусы, як ні донкіхоцтвам, калі адна з старон ня хоча і слухаць ні аб якім Вялікім княжстве Літоўскім чы Вялікай Літве

„Літоўскае грамадзянства энэргічна папірае беларускія творча-дзержаўныя высілкі, выходзячы з засады права кожнага народу на самавызначэньне.

Што іншае, калі жадаюць ад літоўскацаў, каб Літва з Беларусьсю станавіла дзяржаўную адзінку, конгламэрат, зьлепляны абшарніцкаю буржуазнаю глінаю з польскай акраскай, на што літоўская дэмакратыя ня можа згадзіцца.» (Гл. № 102 «Эха Літвы» 13 чэрвеніа 1920 г.)

Вось што кажуць самі літоўцы аб конгламэратнай беларуска - літоўскай дзяржаве. Літоўцы „папіраюць беларускія творча-панствовые высілкі“ для адбудовы незалежнай Беларусі і проціў таго, каб Літва з Беларусьсю станавіла дзяржаўную адзінку. Спрашываецца, ў які спосаб меюць падзею павадыры „беларускага рэспубліканскага саюзу“ прыцягнуць літоўцаў ў сваю зацею. Хіба сілком, або абманам, так каб потым літоўцы аб сабе гаварылі: „без меня меня женили, меня дома не было“.

Мы, аднак, думаем, што ў сучасны момэнт для падобных авантур німа ніякага пэўнага грунту. Момэнт гэты можа прыйсьці пазьней, калі жыцьце войдзе ў нармальные варункі. Покуль жа што рэспубліканскі саюз нехай не забывае добрага правіла: „насільна міл ня будзеш!“.

## Польска-расейская вайна.

У апошні месяц вайна паміж Польшчай і Расеяй вайшла ў новы фазіс. Пакончыўшы з Колчаком, Юдэнічам і Дэнікіным, Ленін і Троцкі сталі зьбіраць сваі войскі са усіх фронтаў і грамадзіць іх проціў палякаў. Пацярпеўшы ад палякаў паражку на украіне, бальшавікі сталі наступаць ў другім месцы—на поўначы—і надта скора занялі вугал паміж Дзьвіной і Бярэзінай, меючы на мэце захапіць Маладэчна, Менск, Барысоў, а можа і яшчэ што. Падасьпеўшыя польскія падкрэпленьня адсунулі бальшавікоў ізноў амаль ні на старыя іх пазіцыі. Але ў гэты самы час бальшавікам удалося прарваць полькі фронт на Украіне. Згра-

---

# Асілак.*)

(Легенда з часоў паншчыны).

III.

Хоўра-бабылка на самым краю жыла, ля аселіцы. Нядужа прыгон служыць, а радня паўмірала ўся, дык старая, бяз родная бавіла дух у целе міласьцінкаю з ласкі добрых людзёў. Улетку стары, малы бяжыць-хапаецца, хто з касою, хто з сярпом, хто з граблямі, хто у поле, хто куды, а Хоўра выпаўзець з хаціны свае, казаў той—крот з зямлі; у руцэ — кашолка, у другой—кіёк даўжэнны. Падзівуецца на сонца з-пад далонькі, акіне вокам вокны пабітыя і саломаю заткнутыя, страху, травою парослую, сьцяну, бярном падапіртую, пастаіць і закандыбае у пушчу грыбы шукаць. Часам цэлы дзень у лесе басьцяецца, зьдзічэла зусім. Калі Ганна часьцей стала па хваробы закідацца, гукнуў Васіль Хоўру к сабе ў хату жыць. Падаперла баба плашкаю дзьверы ў хаціне сваёй, котку з сабою к Васілю прывяла. Адпоўчы Васіль, з кірмашу вярнуўшыся, ня ўцерпіў і пераказаў у хаце, што чутно сярод людзей, што на сьвеце дзейкаюць. Чуў ён, што народзіцца скора нязвычайны асілак і будзе збаўцам ад паншчыны. Пяюць ужо аб ім старцы падарожныя. Выпрасілі яго ў Бога людцы падданыя, прыгнячоныя, і падарожнічкі ўбогія, і халодныя, галодныя, на войнах забітыя, панамі замучаныя. І пойдзе жыцьцё на новы лад. Ня будзе болей паноў, ні хлопаў, падданых ім. Усе будуць роўныя, закрасуе наш Забраны Край.—„Чаму ж гэта не зьявіў-

*) Гл. № 1 і 2

мадзіўшы вялікія сілы ў напрамку Чарнабыля, дзе ім удалося перапраўіцца праз Дняпро паміж Прыпяцьцю і Цецеравам, і ў напрамку Казяціна-Бердычава, дзе паставілі сваю конніцу пад камандай вядомаго Будэннаго, бальшавікі прарвалі польскі фронт і зайшлі ў тыл польскіх войскаў. Так апісвае апошнія здарэньня на Украіне польская „Газэта Варшаўска“. У рэзультаце гэтай удачы бальшавікоў палякам прышлося пакінуць Кіеў. Масты ў Кіеві на Дняпры палякі ўзарвалі, аб чым ад душы прыходзіцца пашкадаваць, бо чаго толькі ні было за апошніе гады з Кіевам, а ўсе-ж знамянітыя масты аставаліся.

Цэзар.

# ЗДАРЭНЬНЕ.

«Есьць чуткі, што NN і NN падалі адзін аднаму рукі і працуюць га савецкай цляцформе».

З газэт.

Восень. Нуда і маркотнасьць. Была, праўда, і вясна—так яе чакалі, але неяк дужа хутка яна мінула. А потым і лета было. Гарачае, з навальніцамі, бурамі, пярунамі. Зараз жа восень. Гэта пара працы злодзеяў, людзей цемных, якія не пужающца ні гвалту, ні крыві.

Злодзі вышаў з сваей бярлогі і пайшоў па сваім справам. Вышаў ён ноччу—калі ж яму і выхадзіць, калі ня ноччу? А ноч цемная, бяз зорак і даўгая, так што, здаецца, ей і канца ня будзе. Добра ведае злодзі сваю справу і куды яму існці—ен яшчэ раней прымеціў тое, што кепска ляжыць... Зірнуў наўкол—цемь. Дабраўся памалу да шляху, папляваў на рукі—кап удача была—і пайшоў, але не дарогай, а старано й з левага боку, дзе спрытней. Доўга ішоў і плян сабе апрацовываў. «Калі забіць каго прыйдзецца, рука не скалыхнецца», думау, «праца знаемая». Усе ладпа і добра, і лічыў ужо злодзі, што у тых далонях, куды пляваў, ен трымае вялікае багацьце... Толькі не спадзяваўся злодзі на тое, што не адзін ен на сьвеці. Зусім блізка да мэты падыйшоў, глянуў неяк у бок і праз цемь убачыў, што па правай старане шляху так сама крадзецца нехта. Паспробаваў ен схавацца—той хаваецца. Ен бліжэй да дорогі, і той бліжэй. Відаць свой брат. Чмыхнуў ціхутка, і той так сама. Асьмялелі абодвы, голас падалі і хутка зразумелі, што адны думкі у іх і мэта адна. Што-ж рабіць? Падумаў адзін, падумаў другі: ці не ўзяць ворага сілай. Таўханулі адзін аднаго памалу—не крануліся. Параіліся і згадзіліся на

ся твой мусіяш раней трошачку, пакуль не забілі бізунамі слугі панскія брата майго нябожчыка?—горка і злосна Хоўра пасьмяхалася.—І ты ўважаеш, што так дужа лёгінька усё тое зьдзеіцца?—Ня мела веры яна, злюшчая:—ого-го, пойдзе па зямлі завіруха шалёная, будуць забойствы і грабежствы крывавыя, пальлецца кроў людзкая цэбрамі, здурнеюць людцы без паноў-начальнічкаў. І дасьць за ўсё адказ на страшным судзе той, хто прасіў, маліў, каб зьявіўся той асілакмусіяш“.. Ганна слухала і баялася. А тымчасам мільгнула лецейка краснае, неўзабаве мінулася. Ужо чырвонымі кісьцямі зьвісала у лесе рабіна горкая, на асінах лісьце барвіцца пачало. Спусташэла поле ярыннае, а дзе парыня чарнелася цяпер—рунь зялёная. Крукаюць у небе высокім жоравы, стройным гужам і шпарка лятучы. Глядзяць на іх сярод вачкастых панскіх канапель, задраўшы галавы, людцы прыгонныя, лятуць з імі думкаю у староны заморскія, выраі вольныя. Э, ня тая ўжо пара — восень позная. Вось і бульбу капацв — рукам надта сьцюдзена: трэба бегчы пад лес, дзе ля возу цяпло невялічкае раскладзена, маркотна патрэсківае, |даліною дым сьцелецца,—трэба бегчы тудой пагрэць рукі акалелыя. Скора Пакроў. Наступілі пасьля сонечных, з павучынкаю, дзён і ядроных, з марозікам белым на страсе, начэй, наступілі дажджы мутныя, сіверка ёдкая, халіпа, ветры з поўначы. І прыйшла Ганне пара з вечара яшчэ мучыцца, а Васіля ўдаму няма. Як сеялі жыта панскае, дык і ён з лубкаюсяўнёю хадзіў. І прапаў ворак жыта на гонях яго.—„Хто ды хто ўчыніў бяду?“—Няма вінаватага. Абсеклі Васіля розгамі, старога, за грэх ня свой, а чужы,

гэткім: ішлі мы адзін правай стараной, другі левай, так і будзем лічыць — твой бок левы, мой бок правы. Идзі сабе куды хочаш, алі адна умова, кап не спатыкацца! Бо калі ізноў сойдземся, напэўна ня спусьцім адзін другому і працэ сваей перашкодзім. Развіталіся і разыйшліся.

Идзе левы злодзі і думае: „кап мне з правым не сустрэцца — зьвярну ка я троху ўлева". Думае гэтак, і сам ўсе улева забірае.

Идзе і правы злодзі і так сама баіцца спатканьня. „Убачу таго — кепска будзе, забяру ўправа". И усе цісьне і цісьне ўправа.

Колькі часу мінула невядома, толькі зір адзін з іх — перад вачмі той самы шлях. Вось і бярозы тыя, і канавы, і усе, як мае быць. „Што за дзіва-дзіўнае? Здаецца ўсе ў бок ад шляху ішоў, а да яго прыйшоў!" Угледзіуся ў цемень. З таго боку дарогі стаіць нехта і ў яго угледаецца. Асьмеліўся, бліжэй пасунуўся, і той так сама. Гукнуў — і той. І голас знаемы. Яшчэ крок, другі, і старыя сябры апынуліся адзін перад адным. Мусілі ўжо і біцца пачаць, але так зьдзіўлены былі, што нават кулакоў ня сьціснулі. «Ты куды ішоў?» «Управа». „А ты?" «Улева». «Як жа гэта здарылася? Здаецца ў розныя бакі ішлі і цераз дарогу не перахадзілі, а ізноў спаткаліся, і, глядзі браток, ты ужо па правым баку, а я па левым ад шляху апынуліся!» „Відаць так і трэба", уздыхнуў другі, „німа чаго тут мудрыць, калі левай ад правай стараны адрозьніць ня можам, а можа і чорт замешаўся, хто іх тут зразумее". Пагаварылі, як добрыя знаемыя і новую пастанову зрабілі. Ісьці разам, не разлучацца, разам працаваць і пароўну дабытак дзяліць. Можа на конта дзяліцьбы і захавалі пры сабе якія асабістыя думкі, але гэта невядома.

И вось, новыя таварышы, падаўшы адзін аднаму рукі, згодна засігалі па самай сярэдзіне шляху. Ідуць, пляны будуюць, свае думкі пра сябе думаюць, а скосу падглядаюць, кап таварыш лататы не задаў, і здаецца кожнаму з іх, што хутка ен адзін здабудзе тое, да чаго парываецца. Толькі таго не ведаюць яны, што цяпер не ўпярод, а назад яны ідуць, і далей ад мэты сваей адсоуваюцца... Ну, але туды ім і дарога, скажам.

Архіп Пуга.

# На белым сьвеце.

## Новы Літоўскі габінэт міністраў.

Як паведамляе ,,Эха Літвы" ў № 103, новы літоўскі габінэт міністроў будзе

---

няведамы і пасадзілі ў склеп. — „Нешта ж доўга няма яго? Гукалі ж, сяньня выпусьцяць"—казала Ганна у вялікай тузе. — „Прыдзе, прыдзе, ня тужы так, мая ластаўка, не гаруй, галуба мая шызая: іншыя трудней яшчэ разьбіраюцца, наглядзілась я за свой доўгі век". А ў вокны вецер ломіцца, на балонах плача капкамі. Апанавала зямельку нямота чорная. Пазаснулі хаты мужыцкія. Толькі тут непакой. Суяцініцца Хоўра з цугуночкамі з вадою летнаю, з начоўкамі, з пялёнкамі, чакаючы блізкае. А Ганна зьбялела, аж сіняя, па хаце ходзідь, рукі ломіць, з тужлівым маленьнем пазірае на абразы чорныя, дзе цяпліцца тонкая сьвечачка. Наступіў той час. Абляцеў па хаце дзяціны плач. З бязьмежнай далікатнай жаласьлівасьцю і пакойным чуцьцём труда скачнчонага ляжала жонка-радзіха, адпачываючы, і слухала гэты крык радасна і з нейкаю няўвераю, зьдзіўлёная, што занадта голасен для дзіцёначка. А Хоўра, баба спрактыкаваная, адразу ў страсе адхіснулася. Падбегла, стала на ўлоньне браць сабе, — яшчэ горш напудзілась: як камень цяжкі. Асьцярожна падказала думку гэтую і радзісе першастковай, нязнаючай, а яго-ткі падняла, у начовачкі паклала купацися. І льлецъ дождж на двары патокамі буйнымі. К нізу самаму падбіраецца аганёк сьвячы. Лучына бязуважна гарыць. Разгарнула баба дзяціныя полачкі, жбанок з вадою сьвяцонай узьняла, лінуць злажылася на маленькага... Плесь!! раптам ён, на ручках узьнімаецца, локцікам упіраецца. Сеў. Зьмярцьвелі рукі бабскія, быццам сьцюжаю зьнеткуль павеяла. — „А хоць бы жа Васіль барджэй,"—шапатала радзіха няшчасная. А Хоўра сьцяміла, што трэба рабіць. Паклала яго,

такі: прэм'ер—др. Каз. Грыніус (адзін з лідэраў соціал-людоўцаў), міністр фінансоў — цяперашні прэм'ер Гальваноўскі (быўшы соц.-люд.), міністр заграничн. спраў—цяперашні пасол ў Бэрлінэ Пурыцкі (хрысьц.-дэмакр.), міністр ўнутр.-спраў—пракурор Раф. Скініціс (Сантара-соцыаліст) або Старкус (хр. дэм.), краевай абароны—інж. Нарушэвіч (Сантара) або Шніукшта (старшыня ваен. суда), міністр справядлівасьці—цяперашні Нарэйка (Пажанга) або Туменас (хр. дэм.), гаспадаркі — цяпер. Тубэліс (Пажанга) або Масіуліс (соц. люд.), дарог — цяп. Чарнэцкі (хр.-дэм.) або Нарушэвіч (Сантара), асьветы — Жэмайціс (незалежн.) або Іокантас (хр.-дэм.), кантралёр Сьметона (Пажанга) або цяперашні кантралёр Зубрыцкі.

Як відаць з гэтага сьпіску, новы Літоўскі габінэт будзе па свайму складу умяркаваным, але усе—ж лявейшым, чым цяперашні, ў склад каторага уваходзіць п. Вальдэмарас, міністр заграничных спраў,—крайні правы, імпэрыаліст і непрымірымы шовініст ў адносінах да суседніх народаў. У новым габінэце п. Вальдэмараса ня будзе.

## Габінэтны крызіс ў Польшчы.

Дзён дзесяць таму назад ў Польшчы пачаўся габінэтны крызіс. Міністры злажылі з сябе паўнамоцтва. Начальнік гасударства І. Пілсудзкі прыняў адстаўку габінэту, даручыўшы аднак міністрам спаўняць свае абавязкі да утварэньня новага габінэту. Да апошняй пары новага габінэту яшчэ не утварылася, бо сэймовыя партыйныя клюбы ніяк не могуць прыйці паміж сабою да згоды. Хоць бы па такому галоўнаму пункту: які павінен быць габінэт ці коаліцыйны—з прэдстаўнікоў усіх сэмовых партыяў, ці спэцыяльна з прэдстаўнікоў толькі цэнтру і левіцы.

Калі гэтае пытаньне будзе вырашана, тады клюбы, перагаварыўшы паміж сабою аб кандыдатах, змогуць утварыць новы габінэт. Па ўсяму, аднак, відаць, што і на гэты раз міністэрскі крызіс ў Польшчы зацягнецца, як і пасьля ўпадку габінэту п. Падэрэўскаго, што безварункова адбіваецца досыць шкодна на справах Польшчы.

## Перагаворы з Красіным.

Народ. Камісар Расейскай Савецкай рэспублікі Красін, дэлегаваны ў Эўропу, па справам тавараабмену і наогул гандлю паміж Расеяй і Эўрапэйскімі гасударствамі, знаходзіцца цяпер ў Лёндане, дзе выступае як „коапэратар" і як „палітык". Як „коапэратар, Красін вядзе перагаворы з эканамічным саветам Антанты, як „палітык"—ен гаворыць з Лойд-Джоржам, ангельскім прэм'ерам, каторы

---

страх свой перамагаючы, на полачкі, завінула і цясёмкаю добраю спавіла. Толькі зьвязала, як крутнуўся хлопчык раз-параз, ручкі ўжо выпрастаў, знатужыўся троху нібы-то і парваў пояс, як нітачку. Валасы дыбам сталі ў баб на галаве. — „Асілак!!" — Шырока выкацілі яны вочы, ад жаху поўныя, кінуліся адна да, днэй і ледзьва шаволяць вуснамі: „Сьвят, сьвят, сьвят..." А ён, распавіўшыся, спакойна бавіцца, ловіць ножкі ручкамі.—„Асілак, — шапатала баба радзісе —Што мы будзем рабіць? — шапатала яна, сьмялеючы, на вуха ёй: — ня жыць яму з намі, а нам і з ім".—„Пачакаем Васіля", — матка не згаджаецца. — «Не замолім грэху, як пакінем жыць яго,—змушчала так, — няхай лепей застаецца ўсё падаўнейшаму. А-ткі ж цярпелі да нас прыгон, дасьць Бог, выцерпяць і посьле нас. А з ім — пойдзе па сьвеце завіруха шалёная. Лепей жа падаўнейшаму, без яго"... „Пачакаем Васіля",— сьпіраецца Ганна нясьмелая. — „А як ён вырасьце за гэты час, што ўжо ня здужаем, як тады?" Васіль у гэты час, з склепу выпушчаны, аслабелы і змораны, мясіў гразь сярод ночы і бязгодзіцы, пасьняшаў дамоў і кляў долю прыгонную, падданую.—„Ну? Ну?— лезла Хоўра к матцы слабеючай. І схапіла, ашалелая, дзіцянё за ножкі белыя, зубамі скрыгнула, размахнулася з усяе сілы і трэснула галоўкаю аб прыпечак. Шусь у хату Васіль.—„А-я-я-я... А што вы паробілі?!"—застагнаў і паваліўся на зямлю, на асілкаў трупок. А вецер вые за сьценамі плачуць балоны вакенныя капкамі мужнымі.

Максім Гарэцкі.

Канец.

пасьля таго, як бальшавікі пранікнулі ў Пэрсію, баіцца, каб ангельскіе інтарэсы ў Азіі не пацярпелі яшчэ больш.

Да чаго прывядуць гэтые перагаворы з «двума Красінымі», покуль што трудна сказаць.

## Польска-літоўскіе перагаворы.

Паводле інформацыі Копэнгагскай „Berlingske-Tidende" п. п. Каменецкі і Недзялкоўскі (паслы польск. Сойму) выезджалі да Коўны з мэтай весьці перагаворы з Літоўцамі. Абодвы сулілі разрашэньне справы Вільні дарогаю плебісцыту. Літоўцы стаялі аднако на канечнасьці затрыманьня Вільні, як сталіцы краю. Тады польскія паслы паталі думку фэдэрацыі, ў каторай Вільня, Коўна і Горадня атрымалі-б характэр самакіруючых кантонаў. І з гэтай прапазіцыяй Літоўцы не згодзіліся.

# ПА КРАЮ.

**М. Шаркаўшчына**, Дзісьн. пав.

Наша мястэчка ў працягу ½ тыдні пераэкыло панаваньне бальшавікоў. Бальшавікі зьявіліся раптам, выехаць мала хто пасьпеў, засталіся, нават, на мейсцы і ксендз, і сьвяшчэнік. Было ў мястэчку толькі войска; „саветаў" і камісараў яшчэ не пасьпелі зрабіць. Войска бальшавіцкае дужа розьніцца ад таго, што у іх было раней—дісціпліна строгая, ніякіх грабяжоў і гвалту ня было. Калі што рэквізавалі, дык за ўсе плацілі, праўда савецкімі грашмі зусім нейкага новага фасону, з надпісам: „пролетарыі ўсіх стран" і т. д. За дзесятак яек, напрыклад, плацілі 200 рублеў. Пачалі рэквізаваць кароў, але не пасьпелі. Разграбілі толькі тыя маенткі, аткуль паўцякалі паны. Як мы чулі цывільная улада у бальшавікоў арганізавана так сама: і саветы, і камісары, і усе інш. Як бальшавікі хутка зьявіліся, так хутка і уцяклі; праўда, яны самі казалі аб сабе, як прыйшлі, што ненадоўга.

**Тутэйшы.**

# Бела-Вацкае Спажывецкае Таварыства „Рунь".

Віленскага павету.

Бела-Вацкае Спажывецкае Таварыства адчынена 16-га лютага 1919 г., т. е. яшчэ пры бальшавіках. На першы устаноўчы сход закладчыкаў гэтага Т-ва прыехаў з Вільні сьвядамы коапэратар, п. Шкленьчік, якім былі растлумачаны сходу важнейшыя параграфы статуту Т-ва.

Коапэратыў на першых парах быў вельмі слабы, складка (паі) была мізэрная (10 р.), гандлевая дзейнасьць яго блага разьвівалася і, па розным прычынам, чуць было не ўгробіўся. Быў момэнт, калі цэлая вёска забрала свае паі і гэткім парадкам Т-ва страціла больш 30 пайшчыкаў.

З новага 1920 году ў лік Ураду Т-ва ўвайшоў вельмі энергічны і працаздольны чалавек, п. Антон Акуневіч. Новы Урад, прыняўшы ад старога Ураду ўсягонаўсяго 7.000 м. гатоўкі і бадай што пустую краму, энэргічна ўзяўся за працу. Коапэратыў стаў моцна шырыцца і на 1-е чэрвеня г. г. меў ужо 8.000 чыстага зыску.

6-га чэрвеня г. г. адбыўся агульны сход пайшчыкаў Т-ва, на якім было вынесена многа вельмі важных для жыцьця коапэратыва пастановаў. 1) Замест 5 фіктыўных, «honorowych» працаўнікоў Ураду Т-ва, былі выбраны 3 асобы за плату: Старшыня—600 м., скарбнік—200 і сэкрэтар — 600 м. у месяц. У склад Ураду выбраны: Ант. Акуневіч, ксёндзпроборшч Крывіцкі і арганіста Міх. Петкевіч. Працу між сабою яны надзялілі так: кс. Крывіцкі —скарбнік, Акуневіч — старшыня і Петкевіч — загадчык крамы, рахмістр і сэкрэтар. Кс. Крывіцкі ад платы за сваю працу адмовіўся і прасіў перавясьці належачую яму плату ў рахунак спэцыяльнага капіталу; 2) Рэвізыйная Камісія зложылася таксама з 3 асоб: кс. Ваеводзкі (з Вакі Тышкевічаўскай), Пётра Амброс і Стан. Мазуркевіч. За працу сябрам Рэвізыйнай Камісіі ўстаноўлена ладзённая плата ў 30 мар.; 3) Складчына (паі) з 10 мар. павялічана да 100 мар. (як асноўны пай) пры 5 марках ўступнай платы; 4) Дзеля павялічэньня зваротных сум Т-ва, Ураду дано права крэдытавацца пад % %; 5) Пастаноўлена

зарэз жа ўвайсьці ў лік пайшчыкаў Віленскага Саюзу коапэратываў і інш.

Гэтага-ж 6-га чэрвеня агульны сход ахрысьціў сваё Т-ва словам „Ruń“, аб чым запісана ў пратакол сходу. На гэтым сход закончыўся з пажаданьнем, каб іх „рунь“ вырасла ў настаяшчае збожжа“ і сахранілася ад „граду, губіцельства, агня, меча і нашэствія інапляменьнікаў“.

А—а.

9/VI—1920 г.

# ХРОНІКА.

**Праваслаўны Епархіяльны Зьезд.**

16-га чэрвеня ў Вільні адчыніўся Епархіяльны Зьезд праваслаўнага духавенства і парафіян. На гэтым зьездзі будуць разгядацца некаторыя важныя для эпархіі справы Пакуль што зьехалася надта мала прадстаўнікоў. Гэта дзеля таго, што цяпер надта цяжка даставаць перапусткі, асабліва з мяйсцовасьцяў блізкіх да фронту; частка-жа тэрыторыі эпархіі і па гэты час яшчэ знаходзіцца пад бальшавікамі. Так сама у некаторых мейсцах не удалося зрабіць сходаў для выбара дэлегатаў.

**Бібліатэка.**

Пры праваслаўнай сэмінарыі (дзе цяпер Беларуская гімназія) есьць вельмі цэнная бібліатэка, каторая перажыла часы нямецкага і бальшавіцкага панаваньня. Польская улада прызнала яе уласнасьцю сэмінарыі, але выдала паперу унівэрсытэту Ст. Баторага на права атрыманьня з бібліатэкі кніжак, якія калісь-то належылі да каталіцкіх і грэкауніяцкіх манастыроў. Прадстаўнікі Унівэрсытэту і Сэмінарыі ўжо пачалі работу па перагляданьню кніг. На сходзе Беларускай Рады і Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, разам з прадстаўнікамі іншых беларускіх арганізацыяў было паднята пытаньне аб гэтай бібліатэцы. Сход пастанавіў: лічыць бібліатэку агульнай уласнасьцю беларускага народу, прыняць яе пад апеку беларускіх арганізацый і зьвернуцца да Генеральнага Камісара Усх. Зям. з прозьбай затрымаць перадачу кніжак унівэрсытэту.

Прэдстаўнікі Унівэрсытэту, якія працавалі у бібліатэцы, 13 чэрвеня явіліся ў бібліатэку з падводай, пачалі складаць кніжкі, што яны атабралі у мяхі і, хацелі іх вывезьці Быўшыя ў будынку гімназіі прэдстаўнікі Рады, Нац Камітэту і Гімназіі заявілі пратэст і вываз кніг затрымалі. Аб гэтым зроблен даклад п. Ген. Камісару і ён абецаў затрымаць перавозку кніг, а для разгляду таго, якія з іх павінны быць перадаены Унівэрсытэту, загадаў зложыць Камісію з прэдстаўнікоў Унівэрсытэта, беларускіх арганізацый і Сэмінарыі. Ад гэтай Камісіі цяпер будзе залежыць, якія з кніжак перадаць Унівэрсытэту Стэфана Баторага.

**Справы вайсковыя.**

Вярнуўся з Менску Камэндант Віленскага беларускага вайсковага рэзэрву пар. Шамко, які езьдзіў туды ў справах арганізацыі вербунковага бюро ў Вільні. Цяпер можна запісавацца ахвотнікамі у Вільні у канцэлярыі камендаита рэзэрву (Бакшта, 11). Прыймаюцца афіцэры і жаўнеры, як з волі, так і служачыя ў польскім войску, усіх іх будуць атпраўляць ў Менск. Разам мы даведаліся, што главнакамандуючы палк. Канапацкі і начальнік штабу палк. Барoдзіч зьмешчаны з сваіх пасадаў і залічаны ў Віленскі рэзэрв. Часовым Главнакамандуючым Беларускага войска назначан майор польскага войска Тунгус-Завісьляк.

**Юрыдычная Бюра.**

Нас паведамілі, што пры Беларускім Нацыянальным Камітэте ў Мінску яшчэ з 15-га красавіка адчыніла сваю дзейнасьць Юрыдычнае Бюро, у якім дае юрыдычныя рады Юрысконсульт Бюро адвакат. Бюро адчынена што дзень, апрача сьвят з 9 да 11 гадз. зрана і з 5—7 ўвечары. Да Бюро могуць зьвертацца як прыватныя асобы, так і беларускія арганізацыі і гурткі асабіста і лістоўна.

Між іншым паведамляем, што і пры Віленскім Нацыянальным Камітэце так сама істнуе Юрыдычны адзел, сябра якога штодзенна апрача сьвят прымае у памяшчэньні Камітэту па юрыдычным справам ад 12 да 2 годзіны дня.

**У Віленскай Беларускай гімназіі.**

12 чэрвеня г. г. ў Беларускай гімназіі (Вострабрам. вул., № 9) адбыўся акт з прычыны заканчэньня школьнаго году і ўручэньня атэстатаў дасьпеласьці 15 вучаніцам і вучням, скончыўшым гімназію. Дырэктар гімназіі М. Кохановіч ў сваёй прамове вітаў скончыўшых і жа-

даў ім і надалей працаваць на карысьць бацькаўшчыны. З прамовамі да скончыўшых выступалі яшчэ п. п. Умястоўскі Ф. і Душэўскі К. На ўсе гэтыя прамовы адказаў адзін з скончыўшых вучняў — п. Дзьмітрыеў, выказаўшы гатовасьць усіх сваіх colleg шчыра працаваць на дабро Беларусі.

Па раздачы атэстатоў пачаўся дывертысьмэнт, а пасьля прашчальны бал.

### Аўтаномія Беларускай школы.

У Вільні быў недаўна Беларускі дзеяч прафэсар В. Іваноўскі; ён разам з прэдстаўнікамі Польскай Улады апрацовываў статут аўтаномнай Беларускай школы. Па дайшоўшым да нас весткам статут такі уже зацвержан, а ле не на усю акупованную Польшчай Беларусь, а толькі на Меншчыну.

### Астатнія пагляды польскай улады на Беларусь.

Старшыня польскага уладу п. Скульскі ў размове з адным з Беларускіх дзеячоў на запытаньне паследняга на конта незалежнасьці Беларусі вось што адказаў: „адрачыцеся ад пяці паветаў, якія стварылі б калідор з Польшчы да Вільні і тады дзеля рэшты Беларусі будзе дадзена незалежнасьць. За незалежнасць Украіны польскі урад выгаварыў па весткам газет, сем паветаў, а за незалежнасьць Беларусі хоча пяць з Горадняй і Вільняй.

# Справачны аддзел.

## Нашыя газэты і журналы.

**„Беларусь“**, штодзенная газэта ў Менску. Рэдактар Я. Лёсік, выдавец К. Тарэшчанка.

**„Рунь“**, тыдневі́к мастацтва і літэратуры ў Менску. Рэдактар І. Луцэвіч (Янна Купала) выдавец В. Іваноўскі.

**„Падарунак Беларускаму Жаўнеру“**, ў Менску, выдае Беларус. Вайсковая Камісія.

**„Саха“**, месячнік сельскае гаспадаркі, ў Менску. Рэдакт. выд. А. Уласаў, выд. Бел. Цэнтр. Саюз. Сельск. Гасп.

„KRYNICA“, народ. тыднёвік, ў Вільні, рэд.—выд. кс. А. Станкевіч.

**„Наша Ніва“**, зборнік Беларус. Выдав. Таварыства. Вільня, 1920 г. Травень.

**„Незалежная Думка“**, народны тыднёвік, ў Вільні, Рэд. Г. Багдановіч, выд. В. Знамяроўскі.

**„Часопісь“**, месячнік, ў Коўні. Рэд. Я. Воронка, выдавецтва літоўскага Міністэрства загранічн. спраў.

**„На чужыне“**, месячнік, ў Рызе. Рэд. Г. Казячы, выданьне Рыжскага аддзелу т-ва «Бацькаўшчына».

**„Варта Бацькаўшчыны“**, белар. вайск. газэта на фронце ў Літве.

Хутка пачне выходзіць: **кооперацыўная часопісь** ў Вільні.



Рэдактар Г. Богдановіч. Выдавец У. Знамяроўскі.

Пазволена Ваеннаю Цанзураю. Друкарня . Кооп. Тавар. „ДРУК“, Троцкая, 13.